© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# «ОХОТНИКИ НА ЗАЙЦЕВ»

## альбо як «мазгавітыя хлопцы» зрабілі бязмозглую антыкрызісную праграму

Навошта «запускаць» дзяржаўныя прадпрыемствы, калгасы і фабрыкі, якія дыхаюць на ладан? Калі цэлых 50% атрымлівае дзяржаўная казна ад крэдытаваньня банкаў?

«Мазгавітыя хлопцы» на чале з прэзідэнтам вырашылі усё пакінуць, як было раней. Чым больш мы «зьдзярэм» з камерцыйных ды іншых банкаў, вырашылі «мазгавітыя», тым больш камерцыйныя банкі зьдзяруць са сваіх кліентаў. Чым больш мы абкладзем падаткамі кліентаў - прадпрымальнікаў і гандляроў, - тым больш, у сваю чаргу, кліенты абдзяруць рабочых, сялян, пэнсіянераў, настаўнікаў, вайскоўцаў і ўсіх астатніх грамадзян. Вядома, падвышка цэн - гэта інфляцыя. Але гаспадары нашых «мазгавітых хлопцаў» плацяць добрую «капусту» каб наш беларускі «заяц» строга трымаў курс і не выскокваў з намечанага, як той бацька Лукашэнка казаў, «калідору». А калі мы гэтага ня зробім, то гаспадары могуць затупаць на нас нагамі. Надта ж спадар Лукашэнка палохаецца, як той заяц, калі на яго тупаюць нагамі.

Гэта нічога, што дзяржаўная валютная пазыка кладзецца на плечы народу. Народ у нас цёмны, ніколі не здагадаецца, што Нацыянальны Банк вельмі танна выбрасвае на чорны рынак валюту, забіваючы адразу некалькіх «зайцоў».

Як я ўжо казаў, адзін «заяц» увесь час бяжыць па «калідоры».

Комбанкі, якія набываюць валюту танна і, адпаведна, «адсьцёгваюць» прадаўцам, - гэта другі «заяц-суперкарупцыянер».

Штучна падтрымліваючы курс рубля на адным узроўні, яны робяць інфляцыю як бы незаўважнай, прыхаванай. Дзяржаўная пазыка нідзе не прыпамінаецца, затое валютны курс, вось ён: на кожным вуглу абменны пункт валюты. Пагляньце, хлопцы! Які ў нас стабільны курс, у нашым «калідоры» заячую пятлю ня зробіш.

Дагадзіць сваім гаспадарам - канчаткова загнаць краіну ў замежную кабалу - гэта трэці «заяц».

З дапамогай неплацяжоў і высокіх камерцыйных ставак абанкроціць дзяржаўныя прадпрыемствы, а затым танна «загнаць» іх «праклятым капіталістам» ці то з «Газпраму» ці то з «Лукойлу» - гэта чацьвёрты «заяц». Гэты «заяц» ужо выходзіць за межы азначэньня суперкарупцыя. Гэта ўжо продаж, альбо здрада Радзіме. І тое, што Форд аблюбаваў сябе мясцечка на Менскім трактарным - гэта адзін з доказаў. Гэта ўжо будзе называцца: «Абарона інтарэсаў ЗША ў Рэспубліцы Беларусь». Таму чакаем войскі НАТА. Расейскія ўжо - а мо яшчэ? - стаяць.

Спадары «мазгавітыя» хлопцы, вы падумалі, што вы вялікія паляўнічыя, палічыўшы сваіх зайцоў. На самой справе гэтыя дохлыя «зайцы» ляжалі на паверхні. І вы вырашылі паласавацца падлам. Калі таварыш Посахаў яшчэ ня быў дарадцам прэзідэнта, ён казаў нам, што самым спрыяльным асяроддзем і прычынай карупцыі зьяўляецца зрошчваньне дзяржаўнай эканомікі з прыватнай. Зараз ён гэтага не гаворыць, відаць, і яму спадабалася здыхляцінка.

Калі дзяржаўны дзеяч з царскімі паўнамоцтвамі гаворыць, што ў яго няма грошай, а ў гэты час квітнеюць Прэзідэнт і жулікі з яго бліжэйшага атачэньня, калі цэны на тавары вырасьлі вышэй за сусьветныя, а зарплата рабочых у 200 разоў ніжэй за сусьветны ўзровень, ці яе не выплочваюць зусім, то ўзьнікае пытаньне. Куды падзеліся гэтыя грошы? Хто ж рабаўнік? Куды падзеліся грошы, атрыманыя ад прыватызацыі жыльля, крамаў ды іншых аб'ектаў? За гэтыя грошы, напэўна, можна было б збудаваць яшчэ столькі ж жыльля, крамаў ды іншых прадпрыемстваў. Аднак нічога не будуецца, нічога ня робіцца.

Раней казалі, што ў нас неканвертуемая валюта і таму кульгае эканоміка. А зараз яе «канвертуюць» на кожным вуглу ў абменных пунктах, на вуліцы і нават у прыбіральнях, а эканоміка ўжо і кульгаць ня мае сілаў.

У той час, як у казьне хранічна не хапае грошай, некаторыя прадпрымальнікі з прычыны ненадзейнасьці нашых банкаў і нашага прэзідэнта, захоўваюць свае валютныя зьберажэньні за мяжой. А «замежнікі» усё тыя ж грошы даюць Нацыянальнаму Банку ў пазыку з умовай, што гэтая пазыка будзе дзяржаўнай, а эканоміка - прыватнай. Вось якія рабаўніцкія «рэформы» прыдумалі для «мазгавітых хлопцаў» іх паханы з Усходу ды Захаду.

Дзіўна, як гэта Яны вызначылі, што гэтыя хлопцы мазгавітыя? Можа бачылі, як яны свае мазгі смажылі на патэльні?

Як нам паведамляюць газеты - «Известия» у перадавым артыкуле ад 22 лютага і «Пагоня» ў артыкуле «Вялікі крымінал» ад 23 лютага - наш бацька і яго «мазгавітыя хлопцы» у сваіх «калідорах улады» акрамя «заячага калідору» зрабілі яшчэ адзін «Беларускі калідор», па якім бяз пошлінаў правозяцца тавары з Эўропы ў Расею ў парушэньне мытнага саюзу. Усе мытныя падаткі ў гэтым выпадку вырашыў браць сам «Бацька» у свой сьпецыяльны прэзідэнцкі фонд. За такі фонд былы прэзідэнт Паўднёвай Карэі Ро Дэ У сядзіць, небарака, у турме. Ну, а наш яшчэ не былы, гэта яму не пагражае. 320 мільёнаў доляраў хапнуў бацька толькі за адну зьдзелку з «Торгэкспа». А такіх зьдзелак, як ён прызнаўся, было дзесяткі. Вось табе, бабуля, і барацьба з карупцыяй!

Цікавая наша краіна: па яе валютных, уладных ды іншых «калідорах» і лазейках бегаюць «зайцы», ходзяць вертыкальныя бюракраты і езьдзяць жулікі і махляры самага высокага рангу. А бабулькі ўжо не сядзяць на лавачках, а прадаюць на вуліцы цыгарэты. Суцэльная занятасьць і ніякага табе беспрацоўя!

«Бацька» некалі казаў: «Я не прошу у вас президентский портфель, лучше подумайте о ваших детях». А сам падумаў: «Мне бы специальный президентский фонд открыть». І мара яго збылася пры жыцьці. А яшчэ ён кляўся да хрыпаты: «Все жулики и воры будут сидеть!». І праўда, сядзяць - на самых высокіх пастах.

А можа ўжо час адлятаць у вырай? У цёплыя краіны? Самалёт ужо набыў, можна яго «Балiварам» назваць. А то сапраўды, раптам у нечыю «мазгавітую» галаву прыйдзе думка аб шкодзе ў асабліва крупных памерах. Галоўнае ў прафесіі рабаўнікоў і махляроў - гэта «вовремя смыться». І «мазгавітых хлопцаў» з сабой бы прыхапіў. Ці «Балівар» усіх не забярэ?

**Генадзь СКАРАДУМАЎ,**
**былы актывіст былой групы падтрымкі кандыдата ў прэзідэнты РБ А.Г.Лукашэнкі.**

# ЗДЗЕЛКА РАСЕЯ - БЕЛАРУСЬ: КОШТ - 1 000 000 000 (АДЗІН МІЛЬЯРД) $ USA

**Паведамленьне аб скасаваньні ўсіх запазычанасьцяў Беларусі падчас візіту Прэзідэнта Лукашэнкі ў Маскву 28 лютага і зацьвярджэньне так званага «нулявога варыянту», пры якім ніхто нікому грошай не вінаваты, выклікае надзвычайныя ўражаньні. Гэта - сэнсацыя нумар адзін. Амаль выкананы галоўны пункт эканамічнай праграмы БНФ, якую сам Лукашэнка перад візітам у Маскву назваў ідыёцкай. Як можна растлумачыць сэнсацыйную зьяву?**

Перш за ўсё ўзгадваецца пра тое, што сьветам кіруе каханьне. Лукашэнка не аднойчы заяўляў пра любоў да Расеі, беларусы рэферэндумам зацьвердзілі свае высокія пачуцьці да ўсяго рускага. Расейцы гэтаксама вельмі любяць ўсіх славянаў, і асабліва беларусаў, чые землі ляжаць на самай кароткай дарозе ў Эўропу. Магчыма, гэта каханьне дае плады? Але каханьне, як вядома, прыдумалі рускія, і як раз дзеля таго, каб не плаціць грошай.

Афіцыйна ўлады малююць гэта такім чынам, што нібыта Пан Прэзідэнт наважыўся і дасягнуў вялікага дыпламатычна-эканамічнага посьпеху. Аднак практычна ўсе эканамісты, як нашыя так і расейскія, сьцьвярджаюць, што плата за транзіт, за разьмяшчэньне расейскіх вайсковых базаў, кампенсацыі за ўран з выведзеных Расеяй ядзерных ракет значна перавысіла памер беларускай запазычанасьці Расеі, у тым выпадку, калі б Беларусь запатрабавала справядлівых узаемаадносінаў.

Значыць, трэба шукаць больш заземленага тлумачэньня.

Адзін мільярд доляраў - грошы дастаткова вялікія, асабліва, калі пакласьці іх у адну кішэнь. Аднак, нават за такую невялікую краіну, як Беларусь, належыць плаціць значна болей. Адказ крыецца ў часе падпісаньня «нулявога пагадненьня».

Разгледзім пазіцыю Лукашэнкі. Ельцын, канешне, кепскі хлопец і народамі будзе праклятым. Але сёньня Ельцын хоча разыграць перад прэзідэнцкімі выбарамі беларускую карту і гатовы заплаціць за яе. Калі Ельцын прайграе, а пераможуць Жырыноўскі ці Зюганаў, то тыя забяруць усё самі не плоцячы ні капейкі. Калі пераможа Ельцын, а Лукашэнка беларускую карту ў гульню не своечасова ня кіне, то тады і Ельцын забярэ ўсё задарма. А ў тым, што прыйдзецца падымаць рукі ўгору, сумнявацца не прыходзіцца: справы ў краіне запускаюцца хутчэй хуткага.

Цяпер паўзіраемся з боку Ельцына. Лукашэнка, вядома, малады ды ранні. Але дамовіцца пагадзіўся. Мільярд доляраў - такія грошы, якія можна выручыць, прадаўшы якому-небудь «усходняму дракону» колькі дзесяткаў вайсковых самалётаў. Зноў жа, сама Беларусь каштуе даражэй, а ня маючы перад выбарамі казырнай карты, можна гэтыя выбары прайграць.

Такім чынам, бакі прыйшлі да ўсьведамленьня неабходнасьці заключыць зьдзелку. Па зьмесьце зьдзелкі адзін бок прымае абавязак дапамагчы другому боку ў прэзідэнцкай кампаніі, а другі бок абавязуецца заплаціць за гэта адзін мільярд доляраў. У лік аплаты прымаецца раўназначны доўг аднаго боку другому.

Ці мае гэтая зьдзелка далейшы працяг, ці распаўсюджваецца на час пасьля прэзідэнцкіх выбараў? Падобна на тое, што так. Ельцын абяцаў пасьля выбараў дапамагчы, з гэтым і адправіў у Менск міністра Прымакова. Штосьці паабяцаў і Лукашэнка, хутчэй за ўсё, прызнаў першынства Ельцына.

Ці трымаюць бакі камень за каўнерам? Безумоўна.

Сутнасьць супярэчнасьцяў паміж бакамі выказаў у Маскве сам Лукашэнка, заявіўшы, што не прымае навязваемыя зьверху формы інтэграцыі (а хто ў краіне вышэй прэзідэнта?), і пастараўшыся прысьпешыць абяцаную дапамогу спасылкамі на тое, што сёньня найлепшыя ўмовы для ажыцьцяўленьня інтэграцыі. Канешне, ёсьць сумненьні і ў Ельцына.

Ці прынясе зьдзелка плён? Пабачым.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# ЛУКАШЭНКУ ХОЧАЦЦА ПАВАЯВАЦЬ?

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка стаў летась чалавекам году амаль ва ўсіх намінацыях (вядома, у межах Беларусі). Ён пабыў і вялікім атамшчыкам, і вялікім банкірам, і аграномам, і педагогам, і атрымаў «Залатога віцязя» у кінематаграфіі, і стаў акадэмікам Расейскай акадэміі навук, а таксама шмат кім яшчэ. Вось толькі вайсковую справу неяк абмінуў бокам. Амерыканскі шарык вось толькі зьбілі, дык гэта дробязь. «Старэйшы брат» бач, як ваюе, а мы ня з месца. Так можа атрымацца, што і прэзідэнтам, і Вярхоўным Гетманам пяць год прабудзеш, а так маёрам і застанешся. Што ж, Беларусь - краіна нейтральная, суседзяў мае мірных, калоній таксама не прыдбала. На добры лад, дык тое войска і зусім непатрэбнае.**

Пэўна, усьведамляючы ўсё гэта, у звароце да воінаў-інтэрнацыяналістаў («Народная газета», 14 лютага 1996 г.) прэзідэнт кажа: «Мы яшчэ раз пацьвярджаем сваю прыхільнасьць да міру і заяўляем, што ні адзін жаўнер нашай дзяржавы больш ня будзе ваяваць, значыць і гінуць у іншых краінах». Так-так, але як вытлумачыць той факт, што згодна распараджэньню Аляксандра Лукашэнкі некалькі тыдняў таму створана міжведамственная камісія па вывучэньні пытаньня аб магчымым удзеле беларускіх вайскоўцаў у міратворчых місіях.

Камісію, куды ўваходзяць прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, Міністэрства абароны, Кабінета Міністраў і Камітэта дзяржаўнай бясьпекі, узначаліў намесьнік дзяржаўнага сакратара Савету бясьпекі Анатоль Тозік.

Безумоўна, стварэньне камісіі яшчэ не азначае, што заўтра беларускія хлопцы ў жалезных блакітных касках будуць шпацыраваць па вуліцах Сараева, а які-небудзь беларускі генерал з вайсковай прастатой «a la Лебедзь» будзе даваць інтэрв'ю ВВС. Стварэньне гэтай камісіі наогул не азначае, што хоць адзін наш жаўнер апынецца недзе ў Югаславіі, хаця большасьць афіцэраў і падтрымлівае гэтую ідэю, спадзеючыся на добры заробак.

Стварэньне гэтай камісіі азначае іншае. Перш за ўсё: хто зацікаўлены ў тым, каб беларусы пачалі ўдзельнічаць у міратворчых акцыях? Адказ: Расея. Пад яе ціскам і створана гэтая камісія. Куды паедуць нашыя «блакітныя каскі»? У Таджыкістан і, вядома, у Чачню. Прэзідэнт Ельцын ужо некалькі разоў заяўляў пра наяўнасьць плану хуткага і мірнага ўрэгуляваньня крызісу ў Чачні. З колаў, блізкіх да Расейскай акадэміі імя Фрунзэ, вядома, што адзін з кірункаў гэтага плану - вывад расейскіх войскаў з Чачні і замена іх міратворчымі сіламі СНД, якія будуць выконваць тыя ж функцыі, падтрымліваць і ахоўваць марыянетачны рэжым Заўгаева, але весьці вайну супраць якіх Дудаеў ня мае ніякага маральнага права. У Расеі ўсё ёсьць для рэалізацыі гэтага плану, няма толькі надзейнага хаўрусьніка. Безумоўна, дзяржнеазіяцкія краіны дадуць войскі, але ўсе мы ведаем, што гэта за войскі. Пакідаць іх без славянскага вока нельгі ні на дзень. А дзе ўзяць славян? Украіна ня дасць ніводнага калекі, ня тое што жаўнера. Застаюцца паўславянскі Казахстан і самы лепшы сябар Расеі - Беларусь. Ды вось незадача. Беларусь, адпаведна Канстытуцыі, ня мае права пасылаць ніводнага жаўнера нават пад Смаленск, ня тое што ў Чачню. Вырашыць гэтае пытаньне указам Лукашэнка ўжо ня можа, бо ёсьць парламант. Ды, напэўна, ня надта і хоча, бо чачэнцам усё роўна, якія каскі будуць на беларусах: блакітныя ці ружовыя. На Беларусь пойдуць труны. А гэтага не даруе ўсенароднаабранаму нават люмпен.

Таму і стварыў Лукашэнка камісію, і будзе старацца прапіхнуць адпаведную пастанову праз Вярхоўны Савет. Гэта ўсё будзе рабіцца ў вельмі паскораных тэмпах, бо Ельцыну трэба хутчэй, тэрмін прэзідэнцкіх выбараў у Расеі вядомы. І зважаць на нейкую там Канстытуцыю нейкай там Беларусі ён не зьбіраецца. Такім чынам відавочна, што стане Аляксандр Лукашэнка на Беларусі чалавекам 1996 году і ў вайсковай намінацыі.

**Станіслаў СУДНІК.**

# ЧАБУРЭКІ БУДЗЕ ЕСЬЦІ СТАРЭЙШЫ

**Два родныя браты спрачаліся на аўкцыёне за права куплі ў арэнду «Чабурэчнай» на вуліцы Ажэшкі. Старэйшы брат грошай меў больш.**




Сем аб'ектаў гарадзкой камунальнай маёмасьці выстаўлялася на продаж для ўдзельнікаў 17-га аўкцыёну ў Горадні, які прайшоў у апошні дзёнь зімы. Найбольшую цікавасьць у пакупнікоў выклікала крама N 56 па вуліцы Шчорса,9. Зацятая барацьба за права дзесяцігадовай арэнды скончылася тым, што аўкцыяніст "дагнаў" прадажны кошт да 800 мільёнаў рублёў пры стартавым у 141 мільён. Аналагічная карціна была і пры продажы крамы N 20 па вуліцы Горкага,47. Са стартавых 149 мільёнаў сума ўзрасла да 500 мільёнаў і толькі пасьля гэтага крама перайшла ў прыватныя рукі. За апошні лот спрачаліся толькі два чалавекі, але менавіта іх спаборніцтва выклікала ў зале найбольшы ажыятаж, бо на «Чабурэчную» прэтэндавалі два родныя браты. Выклаўшы 150 мільёнаў, карміць нас чабурэкамі на працягу бліжэйшых гадоў будзе старэйшы.

**В.Р.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







# СУМЕЖЖА

## СЬВЯТА НА РАДЗІМЕ КАСЬЦЮШКІ

**4 лютага ў былы фальварак Марачоўшчына пад Косавам, на радзіму *нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы, ЗША, ганаровага грамадзяніна* Францыі Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касьцюшкі зьехаліся людзі з многіх гарадоў і вёсак Беларусі - з Менску, Берасьця, Івацэвічаў, Бярозы, Белаазёрска, Баранавічаў, Косава і інш., каб ускласьці вянкі і кветкі да падмуркаў дома Касьцюшкаў.**




Адзначалася выдатная падзея ў нашай гісторыі - 250-я ўгодкі героя. Над узгоркам, асьветленыя зыркім сонцам, на блакітным небе луналі многія дзесяткі бел-чырвона-белых сьцягоў і сярод іх імчала вечная Пагоня; а ў цэнтры трапятаў партрэт маладога генерала. Гара кветак лягла да падножжа акварэльнага дома Касьцюшкаў, сьпецыяльна намаляванага дзеля гэтай імпрэзы. Удзельнікі сьвята - прадстаўнікі патрыятычных сіл краіны - гаварылі, што трэба аднавіць страчаны будынак і стварыць у ім мемарыяльны музей.

Кветкі клаліся пад гукі музыкі паплечніка Касьцюшкі - кампазітара і паўстанчага камандзіра М.К.Агінскага.

На ўрачыстым мітынгу выступілі: Старшыня Нацыянальнага Аргкамітэту М.Купава, Старшыня Фонду А.Т.Касьцюшкі Л.Несьцярчук (Берасьце), дарадца польскай амбасады М.Галкоўскі, дэпутат ВС П.Знавец, мясцовая настаўніца В.Савосьціна, Старшыня БНФ «Адраджэньне» З.Пазьняк, Старшыня БЗВ сп.А.Станкевіч.

**Ул.інф.**

## МЕЧ У РУЦЭ РПЦ

**Напружанасьць у стасунках паміж Маскоўскім і Канстантынопальскім патрыярхатамі неўзабаве можа прывесьці да сапраўднай халоднай вайны ў герархічных праваслаўных колах.**

Чарговым штуршком да гэтага сталася страта Масквой юрысдыкцыі над значнай часткай вернікаў Эстоніі. У гэтай краіне, дзе большасьць складаюць людзі лютэранскага вызнаньня, налічваецца каля 57 тысячаў праваслаўных паводле хрышчэньня. З нядаўняга часу найбольш актыўная іх частка (чытай - практыкуючыя хрысьціяне) вылучыліся з-пад патранажу Масквы ў аўтакефалію.

20 лютага патрыярх Варфаламей прыняў рашэньне пра кананічнае падпарадкаваньне Эстонскай апостальскай праваслаўнай царквы Канстантынопалю. У адказ Сьвяшчэнны сінод Расейскай праваслаўнай царквы пастанавіў не ўзгадваць імя візантыйскага герарха пад час набажэнстваў. Ад імя сіноду патрыярх Алексій II накіраваў у Канстантынопаль тэлеграму пратэсту, а ў інтэрв'ю ледзь хаваў сваё раздражненьне.

Што ж, губляючы чарговы фарпост, можна забыцца і пра пост. Характэрна, што страчваючы ладны «кавалак» (рука бяручага, безумоўна, «оскудеет»), Алексій II стаў адкрыта апеляваць да расейскай дзяржаўнай улады. А ў Расеі, як вядома з гісторыі, царква, дзяржава і армія «едины». Колькі месяцаў таму ва ўлонне РПЦ быў ахрышчаны крывавы генерал Грачоў. Цяпер малітвы «на рать идущим» у Чачні чытаюцца ледзь не штодзённа. Так што і ў Эстоніі Расейская праваслаўная царква падаецца патэнцыяльным інсьпіратарам палітычна-нацыянальнай напругі.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## НА МЯЖЫ ЗНОЎ СТРАЙК

Першы страйк на адчыненым 20 сьнежня мінулага году памежным пераходзе ў Баброўніках адбыўся ў сярэдзіне лютага.

Новы пераход павінен быў істотна зьменшыць чэргі на пераходзе Брузгі-Кузьніца, але, падобна, стаў яшчэ адной кропкай псаваньня нерваў. 12 лютага на польскім баку мяжы сабралася каля 200 «цiраў». Марудная праца беларускіх мытнікаў, у выніку чаго кіроўцы вымушаны былі стаяць на мяжы каля двух сутак, выклікала стыхійны страйк. Некалькі «цяжкагрузаў» перакрылі дарогу.

Пасьля перагавораў кіроўцаў з польскімі і беларускімі мытнікамі 13 лютага рух на пераходзе быў адноўлены. Беларускія службы пачалі адпраўляць «цiры» па дадатковай паласе.

Чэргі на мяжы, аднак, застаюцца і сёньня.

**В.АНІМУЦКІ.**

## БЕЗ МЯНЕ МЯНЕ ЖАНІЛІ

**Пасьля непаважлівых выказваньняў Жырыноўскага ў расейскай Дзяржаўнай Думе і заявы яго фракцыі адносна Польшчы і яе палітыкі, МЗС гэтай краіны выказала Маскве афіцыйны пратэст, аднак Крэмль на гэта не прарэагаваў.**

Цяпер зьявілася новая нагода, каб узбударажыць польскае грамадзтва і кіруючыя колы суседняй краіны. Напрыканцы першага дня афіцыйнага візіту прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі ў Маскву і падпісаньня адпаведных дакумантаў (адзін з іх - «нулявы варыянт» адносна запазычанасьцяў краін), Б.Ельцын заявіў, што Расея і Беларусь жадаюць пабудаваць праз тэрыторыю Польшчы экстэрытарыяльны транспартны калідор паміж Калінінградам і Беларусьсю, абмінаючы Летуву, а з Польшчай, маўляў, дамовімся. Як вядома, у мінулым годзе ўрад прыбалтыйскай краіны значна павялічыў транспартныя пошліны. Такая заява Ельцына нагадвае савецкія часы, калі Масква фактычна кіравала Усходняй Эўропай. Але часы ўжо не тыя.

Міністр транспарту Польшчы Багуслаў Ліберацкі, выступаючы па радыё, адзначыў, што такі варыянт непрыймальны. Аддаваць кавалак сваёй тэрыторыі другой дзяржаве Польшча не зьбіраецца, прытым у самым экалагічна чыстым і каштоўным у прыродных адносінах рэгіёне.

Такой палітыкай Расея штурхае Польшчу на разлад з Летувой. Трэба ўлічваць і менталітэт палякаў, якія добра памятаюць нямецкі калідор да Гданьска, і да чаго гэта прывяло. Расея можа карыстацца польскімі транспартнымі магістралямі па эўрапейскіх правілах, так, як, напрыклад, едуць транспартныя сродкі праз Польшчу з Масквы на Берлін, Парыж ці Лісабон.

Прадстаўнік МЗС Польшчы Павэл Дабравольскі сказаў, што перамовы можна весьці, але пакету дакумантаў на гэты конт ніхто не бачыў, і цікава, што можа прапанаваць Польшчы Расея?

**Людвік САРОКА.**

# Атрымаўшы па зубах у Чачні, Расея хоча праглынуць Беларусь

Мінуў месяц пасьля страшных падзеяў у Дагестане — разбурэньня расейскай ваеншчынай пасёлка «Першамайскі» і зьнішчэньня мірных людзей. Становіцца ўсё больш відавочным, што гэтае варварскае злачынства было задумана і спланавана ў вышэйшым кіраўніцтве Расеі. Тым, хто разьвязаў брудную каланіяльную вайну ў Чачні, патрэбна была хоць якая перамога над чачэнцамі, каб задаволіць імперскія амбіцыі расейскага абывацеля напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

Было, відаць, дадзена заданьне перамагчы любой цаной, не зважаючы на жыцьцё і сьмерць людзей, на суверэнітэт Дагестана, на міжнароднае права і г.д. Нічога ня мела значэньня перад халодным палітычным разьлікам. Тыпова расейская палітыка. Гэтым тлумачыцца (таксама «тыповая») грандыёзная цынічная хлусьня імперскай прапагандысцкай машыны, пакліканай апраўдаць злачынства. Але...

Але адборная ўзброеная да зубоў расейская ваеншчына, зьдзейсьніўшы тэрарыстычны акт, пацярпела паразу ад групы гераічных чачэнскіх салдатаў. Вось тут і замітусіліся стратэгі выбарчай кампаніі ў Маскве. Яны зразумелі, што спадар Ельцын можа праваліцца (мала забілі чачэнцаў, разьлічвалі больш). Дадумаліся адкласьці выбары. Але як?

Патрэбна было прыдумаць нейкую важную падзею, што закране асновы дзяржавы. І прыдумалі... прарвацца на беларускім фронце. Вырашылі (і таксама любою цаною) тэрмінова праглынуць Беларусь. Тут жа маскоўскія імперскія дэмакраты, адхіліўшыся на хвіліну ад дзяльбы партфеляў, пачалі гаварыць пра неабходнасьць беларуска-расейскай канфедэрацыі. І так яна ім спатрэбілася, што ня могуць безь яе.

Першай выступіла за «конфедерацию» «ярко выраженная демократка», як назвалі яе ў газеце «Известия», ельцынская прыхільніца Галіна Старавойтава. А потым ужо і іншыя «дэмакраты» загаманілі на матыў «Боже, царя храни».

Разьбірацца, што там хто з іх сказаў, нам ужо няма патрэбы. Бо для нас яны цяпер усе аднолькавыя — цынікі і ворагі Беларусі. Незалежна ад таго, як яны сябе называюць: «дэмакратамі», камуністамі, фашыстамі, анархістамі і г.д. Усе яны — імперыялісты і гатовыя апраўдаць любую імперскую подласьць, любое забойства, любое злачынства дзеля ўлады, незалежна ад полу, адукацыі і палітычнай групы.

Зраблю толькі дзьве заўвагі. Праглынуць Беларусь «крывавым дэмакратам Расеі» будзе ня так проста, як яны думаюць. Па-першае, расейскія камуністы, якія ня любяць Ельцына, маюць рэальны шанец выйграць выбары. Ім не з рукі адклад, хоць і Беларусь захапіць хочацца.

Беларускім камуністам і ўсёй пятай калоне на Беларусі таксама хочацца хутчэй прадацца (ды каб яшчэ і задарма). Але і «чувство интернациональной солидарности с российскими товарищами» «тоже есть». А ўлада для камуністаў — найважней.

Жырыноўшчыкі, якія ня любяць і Ельцына, і камуністаў, хутчэй за ўсё будуць таргавацца. Лукашэнка, які любіць камуністаў і ня любіць Ельцына, але хваравіта марыць пра расейскі прастол, будзе рабіць, як скажуць, і дзейнічаць, як хоча. (Верны шлях скруціць шыю.) У выніку, і як заўсёды, за грахі авантурыстаў разьлічыцца народ (паколькі і ў Беларусі, і ў Расеі ён звычайна «безмолвствует»). Зрэшты, на Беларусі могуць знайсьціся сілы, што яшчэ пастаяць за свабоду Бацькаўшчыны, як некалі. Тады «ярко выраженным» імперыялістам будзе дрэннавата.

Другая мая заўвага тычыцца так званых расейскіх «дэмакратаў» і дэмакратыі ў Расеі. Мне прыходзілася ўжо ня раз гаварыць і пісаць, што ніякай дэмакратыі ў Расеі няма і ня будзе. Магчыма толькі хімера, прафанацыя дэмакратыі. Расея ў прынцыпе ня можа быць дэмакратычнай краінай эўрапейскага кшталту. Чаму? Таму што дэмакратыя і імперыя несумяшчальныя. А Расея нават па сваёй структуры — тыповая імперыя, ды яшчэ і з калоніямі (Сібір, Каўказ, Поўнач і г.д.). Я ўжо не кажу пра расейскую гісторыю і сьвядомасьць расейскага жыхара. Пакуль існуе Расея са сваім імперскім сьветапоглядам, імперскімі інтарэсамі і ваенна-прамысловым комплексам, свабода і незалежнасьць Беларусі і іншых суседзяў Расеі будзе пад пагрозай.

Уся наша беларуская палітычная гісторыя, пачынаючы з сярэднявечча, — гэта гісторыя барацьбы з Расеяй, спачатку з Масковіяй, а потым — з імперыяй. Мы, так бы мовіць, былі з гэтай краінай заўсёды натуральнымі ворагамі, знаходзіліся ў стане вайны. Беларусь увесь час баранілася ад расейскай агрэсіі. Агрэсія, агрэсіўны падыход, захопніцкія інтарэсы — гэта пастаянны стан Расеі ў дачыненьні да Беларусі, заўсёды і па сёньняшні дзень. З гэтай рэальнасьці трэба зыходзіць, думаючы пра будучыню беларускай нацыі і дзяржавы.

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА
абвяшчае
**КОНКУРС ДАСЛЕДВАННЯЎ ПА САЦЫЯЛЬНЫХ НАВУКАХ**

У МЕЖАХ ПРАГРАМЫ «ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ»

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца даследчыкі ў наступных галінах:

**САЦЫЯЛОГІЯ**
- Фарміраванне суб'ектаў грамадзянскай супольнасці
- Сацыяльныя механізмы станаўлення рынкавых адносінаў
- Пераадоленне стэрэатыпаў таталітарызму ў масавай свядомасці

**ПАЛІТАЛОГІЯ**
- Станаўленне дэмакратычных інстытутаў
- Сацыяльна-палітычныя канфлікты
- Знешнепалітычныя прыярытэты Беларусі

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ XX СТАГОДДЗЯ**
- Праблема фарміравання эліты беларускага грамадства
- Палітычныя партыі і рухі Беларусі
- Гісторыя прадпрымальніцтва і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у Беларусі

*ТЭРМІН РЭАЛІЗАЦЫІ ПРАЕКТУ не павінен перавышаць адзін год.*

ПРАЕКТЫ НЕ МОГУЦЬ НАСІЦЬ камерцыйны характар.

У межах конкурсу НЕ БУДЗЕ ФІНАНСАВАЦЦА выданне рукапісаў і манаграфій.

***Пераможцы конкурсу атрымаюць падтрымку ў выглядзе невялікіх грантаў і тэхнічнай дапамогі на рэалізацыю праектаў.***

АДНА З КЛЮЧАВЫХ УМОЎ падтрымкі праекту - абавязацельства аўтараў азнаёміць як мага больш шырокае кола насельніцтва з вынікамі даследванняў праз выступленні ў сродках масавай інфармацыі і распаўсюджванне інфармацыйна-аналітычных матэрыялаў.

***Тэрмін разгляду заявак - два месяцы з дня заканчэння конкурсу.***

Форму заяўкі і дадатковую інфармацыю Вы можаце атрымаць у Беларускім Фондзе Сораса па адрасу: **220027 г.Мінск, пр.Ф.Скарыны, 65, корпус 11а БДПА, пакой 517а, з 10.00 да 13.00 і з 14.00 да 17.00 у працоўныя дні.**

*Заяўкі, складзеныя не па форме, не прымаюцца.*

***Заяўкі прымаюцца да 27 сакавіка 1996 года.***

*Просім дасылаць іх па пошце на вышэй названы адрас Беларускага Фонду Сораса, з пазнакай* ***«Конкурс даследванняў па сацыяльных навуках».***

© Гольфстрым 034

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







УСПАМІНЫ

# АТАМАН ІВАН ПЕРАГУД

## УСПАМІНЫ І ДАКУМАНТЫ БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА АТАМАНА

**Іван Перагуд нарадзіўся на Піншчыне ў 1898 г. (?) Удзельнічаў у беларускай антыпольскай партызанцы БНР у складзе атрада ат.Якуба Харэўскага (Новіка). З 1926 году жыве на Валыні пад чужым прозьвішчам. На пачатку 1939 г. удзельнічае ў грамадоўскай канферэнцыі ў Баранавічах. У першыя дні верасьня 1939-га году арганізоўвае партызанскі атрад на Драгічыншчыне. Да чэрвеня 1941 году знаходзіцца на нелегальным становішчы. З пачаткам вайны ізноў творыць свой аддзел на Марачаншчыне й пасьля дзее пад Ратнам, Жабінкай і Драгічынам. Бярэ ўдзел у канферэнцыях Беларускай Народнай Партызанкі.**

**Пасьля прыходу бальшавікоў атрад ат.Перагуда дзейнічае на Палесьсі яшчэ каля году. Напрыканцы 1945 г. перагудаўцы перадыслакаваліся ў Аўгустоўскую пушчу, на тэрыторыю Польшчы, і дзеялі там супраць польскіх нацыяналістычных бандаў, што палілі беларускія вёскі, забівалі беларусаў. З дапамогаю беларускага падпольля ў Польшчы, у 1947 г. партызаны Перагуда праз Чэхію дабіраюцца да Заходняй Нямеччыны.**

**У 1949 годзе, разам з партызанамі Харэўскага і Язэпа Таўпекі, перагудаўцы выязджаюць у Паўднёвую Амерыку. І.Перагуд жыве ў Бэлё Горызонтэ (Бразілія), зьяўляецца кіраўніком Саюзу Былых Удзельнікаў Збройнай Барацьбы за Вызваленьне Беларусі (СБУЗБ з ВБ) на Паўднёвую Амерыку. Атаман І.Перагуд праводзіць сустрэчы вэтэранаў БНПартызанкі, дасылае свае ўспаміны ў канадзкую газэту «Беларускі Голас», уваходзіць у Саюз Вольных Беларускіх журналістаў (СВБЖ). Ягоныя ўспаміны «Партызанская дзейнасьць» гэтак і засталіся ненадрукаванымі ў архіве навукова-дасьледчага інстытута імя К.Каліноўскага.**

**Памёр, маючы 86 гадоў.**

### 1. АТАМАН МУХА І САВЕЦКІЯ ХВАЛЬШАВАЛЬНІКІ

У нр.7 «Полымя» за гэты год зьявіўся нарыс Ільлі Ражкова «Чалавек з легенды» аб дзейнасьці савецкага чэкіста К.Арлоўскага і атамана Мухі-Міхальскага. На жаль, як заўсёды, гэты савецкі гісторык перакручвае праўду і гэтым уводзіць у зман чытачоў, якія ня ведалі тых часоў і ня бралі ўдзелу ў той барацьбе.

Мне пашчасьціла быць удзельнікам яе і асабіста, або праз маіх сяброў, ведаць паднаготную падзеяў, якія шмат разыходзяцца са створанай савецкімі гісторыкамі легендай аб іхным чалавеку Арлоўскім.

Як яно было? Беларуская партызанка на Палесьсі існавала яшчэ за нямецкіх часоў у 1918 годзе, а з прыходам Польскіх легіёнаў, моцна пасілілася, нават вылівалася ў паўстаньні, як у Марочне, Люсіне, ( Сарненская рэспубліка ). Калі Бальшавікі прабіліся пад Варшаву, яна была ўціхла, але з абвяшчэньнем пры адыходзе мабілізацыі, хлопцы на зборныя пункты не пайшлі, а ў лес, узбройваючыся кідаными абозамі скрынямі зброі.

У 1921 годзе ўсё Палесьсе кішэла партызанкай. Гэта былі звычайна малыя самастойныя групкі, бяз глыбшых ідэёвых праграм, пад лозунгамі: «Біць паноў!» «За буг ляша, а тут - наша!» Інакш было далей на Захад за Пінскам каля Целеханаў, у Белавежскай Пушчы і на Паўночным Захадзе ў Ружанскіх лясах, у Ліпчанскай і Слонімскай Пушчы. Там пачала дзеяць арганізаваная партызанка БНР, кіраваная Урадам БНР з Літвы, якой стрыжнем быў накіраваны ў Белавежскую Пушчу атрад рэгулярных Беларускіх войск з беларускага палка, што знаходзіўся ў Шаўлях каля Коўна. Атрад складаўся з 300 жаўнераў пад камандай капітана Разумовіча. Усе створаныя пры дапамозе гэтага атрада партызанскія групы і падначаленыя існуючыя раней, як незалежныя атрады, былі аб'ядналыя ў гэтак званую «5-ю Групу Войскаў БНР». Пасьля абсадкі Белавежы, Ражанаў, Камянца, Гайнаўкі і іншых мястэчак палкамі Польскай кавалерыі і пяхоты, і выкрыцьця цэтральнага лагеру атраду Разумовіча, ён у 1922 г. перайшоў, перасьледаваны польскімі войскамі, з сваёй рэгулярнай часткай на Літоўскую мяжу. Аднак усе мясцовыя партызанскія атрады, якія дзеялі па-за Белавежскай пушчай, дзеялі далей, як атрады ат. Харэўскага, Шаршня, Сілюка, Іскры, Рудога - самадзельна. На Піншчыне дзеяў атрад Харэўскага-Новіка, які налічваў нешта 40 чалавек.

У гэты самы час у 1921 годзе група левых Беларускіх эсэраў у Вільні на чале з Лагіновічам і братамі Канчэўскімі стварылі патаемную Беларускую Рэвалюцыйную Арганізацыю, якая пачала закладаць на вёсках Віленшчыны і Маладзечыншчыны Баявыя Дружыны для збройнай барацьбы з палякамі. У 1922 годзе гэтая група пайшла на прапанаваную камуністамі угоду, злучылася з гарадзкой Віленскай арганізацыяй Жыдоўска-Польскіх камуністаў, ды разам з імі ўтварыла Камуністычную Партыю Заходняй Беларусі, на чале з Лагіновічам - Корчыкам, як генеральным Сакратаром. Яны патрабавалі ад Менску дапамогі ў арганізацыі збройнай барацьбы супраць палякаў, дасылкі вайсковых інструктароў і зброі. Але калі ў Вілейшчыне і Маладзечыншчыне КПЗБ мела адрасы сваіх, даўняй БРА, баявых дружын, дык на Палесьсі такіх зьвязкаў ня мелі, бо там партызанка была зьвязаная з Ковенскім Урадам БНР, ці зусім самастойная.

Дык група Лагіновіча-Канчэўскага рупілася яе аб'яднаць пад сваім кіраўніцтвам, бо яны гатаваліся да паўстаньня на Заходняй Беларусі. Што робіць бальшавікі? Яны даручаюць гэтую справу ворганам ЧэКа, якая ёсьць іх палітычна-паліцыйным упраўленьнем і контрразьведкай. На гатовыя баявыя дружыны Вілейшчыны і Маладзечыншчыны накіроўваецца з Менску, як кіраўнік партызанкі, чэкіст пад імем Смольскага, пад якім укрываўся маёр ЧэКа - зрусіфікаваны літовец Вапшаўскас. На Палесьсе накіроўваюць, як на больш цяжкі раён, бо не зарганізаваны, чэкіста беларуса Кірылу Арлоўскага з адным краснаармейцам, які паходзіў з пагранічнае паласы з-пад Польчшы, і адрасамі розных валасных работнікаў падчас бальшавіцкага каротказа панаваньня ў 1920 годзе.

Гэта было ў пачатку 1922 году. Арлоўскі хаваецца каля Ляхавіч, наладжвае сувязі з некалькімі мясцовымі былымі бальшавіцкімі работнікамі і арганізуе свой партызанскі атрад пад імем Аршынава. У гэтым часе ўжо шырока быў вядомы сваімі дзеяньнямі атрад атамана Мухі. Муха (праўдзівае Міхальскі) - харунжы Польскага Кавалерыйскага палка, што ў Баранавічах і Ляхавічах, быў за несубардынацыю арыштаваны і адданы пад суд, але ўцёк з-пад канвою. Схаваўся ў сваіх знаёмых па выпітках, у недалёкай каталіцкай вёсцы. Спачатку, каб здабыць грошы на выпітку і пражыцьцё, выходзіў з двума-трыма супольнікамі на Ляхавіцкую дарогу, ды абіраў апазьнўшыхся жыдоўскіх гандляроў. Пасьля, як паліцыя пачала пошук, узяўся на розныя вычыны на злосьць паліцыі, каб яе асьмяшыць. Гэта прынесла яму розгалас і прыдбала сяброў з настроеных антыпольска сялян. І такім чынам, неспадзявана для сябе, Муха стаецца з звычайнага «апрышка», дзякуючы сялянам, якія ўвайшлі ў яго атрад, барацьбітом процiў польскіх паноў. Муха – вялікі фантазёр – чытае Монтэ Крыста і наследуе апісаныя штучкі процiў паліцыі. Ім зацікавіліся бальшавікі. Яшчэ перад перабраскай Арлоўскага бальшавіцкія пагранічнікі схапілі трох хлопцаў Мухі, якія па нападзе, уцякаючы ад паліцыйнай пагоні, перабеглі савецкую мяжу. Пасьля пяці дзён допытаў у Менску, іх вярнулі назад праз мяжу з даручэньнем перaказаць Мусе прапанову: бальшавікі дадуць яму зброю і каждаразовы сход на сваёй тэрыторыі, калі яго атрад будзе перасьледаваны паліцыяй, а таксама медыцынскую апеку для ўсіх параненых у акцыях, у бальшавіцкіх шпіталях, за што ён мусіць пагадзіцца на прыняцьце іхнага камісара, як начальніка штабу, які, як ваенны сьпецыяліст, будзе распрацоўваць планы нападаў, ды будзе зьвязаны з бальшавіцкімі ўладамі за мяжой для прыгатовы сховаў і зброі. Разам з ім мае быць яго 2-х памочнікаў. Муха на прапанову не адказаў. Заданьнем Арлоўскага было апанаваньне атраду Мухі і дзеяньня пад яго імем са зьніштажэньнем самаго Мухі, калі ён не падпарадкуецца. У хуткім часе Арлоўскі з сваімі агентамі намацаў стаянку Мухі, ды захапіў іх ураслох бяз стрэлу. Абязброенаму Мусе Арлоўскі запрапанаваў старыя ўмовы бальшавікоў: Муха застаецца афіцыяльным атаманам, а Арлоўскі (атаман Аршынаў) мае быць палітычным камісарам і начальнікам штабу, ды будзе кіраваць аперацыямі і ведаць, пры дапамозе свайго падручнага Рабцэвіча, кадрамі партызанаў. Муха мусіў пагадзіцца.

З гэтай пары (палова 1922 году) пад імем Мухі дзее Арлоўскі, трымаючы Муху фактычна пад збройным наглядам у сваіх лягерах. Дзеяў Арлоўскі ў прымежных паветах з бальшавікамі: Нясьвіжскім, Клецкім, Лунінецкім і Столінскім ды Баранавіцкім, дзе каля Ляхавічаў найбольш хаваўся. Пасьля кожнай вялікай акцыі пераходзіў з галоўкай у 10-15 чалавек граніцу, цягнучы і Муху, хаваючыся бясьпечна ад польскай пагоні. Адпачывалі тыдзень-два, схованыя ў кашарах, або ў адным маёнтку пад самым Менскам, які афіцыяльна лічыўся «Сельскагаспадарчай дасьледчай станцыяй», абераганай жаўнерамі ЧэКа. Пасьля іх ціхутка ў начы перакідвана назад пад Польшчу. Каб зьвязаць мацней Муху, Арлоўскі прыдумаў рабіць усе напады сваіх атрадаў ад імя Мухі, а нават перадаў гэтае даручэньне і Вапшаўскасу, і Макарэвічу, каб і яны ўкрываліся пад Мухай.

Такім чынам, Мусе не было выйсьця, бо трапіўшы ў польскія рукі, ён адразу быў бы павешаны, таму хочаш-ня хочаш мусіў пакарыцца Арлоўскаму, хоць, падобна, шмат дзе мог супраціўляцца самаволі Арлоўскага. З часам Арлоўскі патварыў на ўзор партызанкі БНР у Ліпічанскай, Ражанскай і Слонімскай пушчы, па вёсках нясталыя партызанскія групы. Яны па загаду зьбіраліся ў адпаведны час у адпаведным месцы, зьяўляўся Арлоўскі з сваімі памочнікамі і вёў на напад. Па нападзе група варочалася дамоў і зноў рабілася сялянамі, а Арлоўскі са здабычай і парай сталых партызанаў, што былі нелегальнымі, ды Мухай, хаваліся на час трывогі і вобыскаў за мяжой. Старыя сябрукі Мухі па аднаму сталі Арлоўскім сплаўляцца з атраду ў разрад легальных, пражываючых адкрыта ў сваіх вёсках, або і прыстрэльвацца. Адзін уцёк і потым прыбіўся да нашага атраду ат.Харэўскага. Даведаўшыся аб метадах Арлоўскага (знаны ён быў менш як атаман Аршынаў, а больш як «Мухаў камісар», «Бальшавіцкі камісар» або проста «Камісар»).

У пачатку 1925 году загадам з Масквы, у сувязі з новай палітыкай, загадана партызанку зьліквідаваць, КПЗБ падпарадкаваць Польскай Камуністычнай партыі ў Варшаве. Арлоўскі са сваімі кумпанамі па ЧэКа, Мухай і каля 20-ці партызанаў пераходзіць мяжу. Атрад з Мухай пасяляюць зноў ў тым жа маёнтку, туды ж прыводзіць каля 20 партызанскіх актывістаў з Вілейшчыны Вапшаўскас і Макарэвіч. Самі чэкісты Арлоўскі, Вапшаўскас, Макарэвіч, Рабцэвіч і шчасьліўчык Корж адпускаюцца ў Менск, а рэшта «адпачывае» пад ваенным аховай у маёнтку, прычым іх не праінфармавалі, што партызанка ўжо адклікана бальшавікамі. Два ўдзельнікі атраду Мухі (Тадосік і Сілівончык) наважыліся ўцячы, што ім і ўдалося.

Пасьля некалькіх месяцаў распаўсюдзілася сярод кантрабандыстаў з-пад Давыд-Гарадка вестка, што Муха расстраляны ў Менску за напад на цягнік (?) Каб даведацца праўды аб лёсе сяброў, Тадосік вырашыў прасьлізнуць назад да таго маёнтку. Там даведаўся ад абслугі кухні жахлівай праўды: адной ночы, нядоўга, як ён уцёк, прыехаў вялікі атрад ЧэКа ГПУ. Бралі групамі, выводзілі ў лазьню і там стралялі. Пасьля трупы заладавалі на аўтамабілі і вывезьлі. У маёнтку ж цяпер была закладзеная нелегальная школа камуністычных агітатараў для Заходняй Беларусі, таксама ахоўваемая праз вайсковую варту. Тадосіку ўдалося вярнуцца назад і пасьля наладзіць сувязь з нашым атрадам ат.Харэўскага.

### 2. ЛОШЫЦА

У Менскім «Голасе Радзімы» зьмешчаны артыкул гістарычнага зьместу аб падменскай мясьціне Лошыца з колішнім маёнткам абшарніка Прушынскага, а ў савецкія часы афіцыяльна там быў заснаваны сельскагаспадарчы інстытут і сельскагаспадарчая дасьледчая станцыя. Але гэта зусім ня поўная гісторыя Лошыцы! Яна мела яшчэ адну скрытную гісторыю, якую савецкія гісторыкі не выяўляюць. Лошыца ў сваім часе зрабілася «адпачынкавым пунктам» кіраванай чэкістамі партызанкі пад кіраўніцтвам чэкіста Арлоўскага супраць Польшчы, а вядомай як партызанка атамана Мухі (чэкісты, пераброшаныя з Савецкага Саюзу, захапілі подступам гэтую партызанку і атрымалі Муху фактычна як свайго палоньніка).

Па нападах на польскім баку, яны ўцякалі за мяжу і адпачывалі ва ўкрыцьці - у Лошыцкім маёнтку - да новага выпаду. Па загаду зьліквідаваньня партызанкі ў 1924 годзе, іх паклікалі зноў за мяжу на «адпачынак» у Лошыцу, дзе патаемна зьліквідавалі, а трупы вывезьлі грузавымі машынамі. Частку, якія былі камуністамі, далі прысуды «тройкай» і вывезьлі ў Сібір, дзе тыя й загінулі. Чэкісты Арлоўскі, Гарбацэвіч, Корж і яшчэ пару, атрымалі па ордэну і былі пасланыя на іншую чэкістоўскую работу. Сам Муха, па вестках, быў зьнішчаны ў той жа Лошыцы яшчэ ў 1923 годзе.

Я, былы перабежчык з атраду Мухі (калі пабачыў, што робяць з нашага атраду чэкісты) да нашай народнай партызанкі атамана Харэўскага (у пачатку 1923 году), быў пасыланы Харэўскім у Лошыцу на выведаньне, што сталася з Мухай і яго атрадамі, і з апаведаньняў мясцовых даведаўся аб іх лёсе (быў там такі бухгалтар, які пасьля таксама быў арыштаваны і высланы ў лагеры за «антысавецкую прапаганду»).

**(Працяг у наступным нумары.)**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# Праграма тэлеперадач

## Панядзелак, 4 сакавіка

### Белорусское телевидение

**15.00** Новости. **15.15** «Авиценна. Этюды о здоровье». Док.фильм. **15.30** ТВ - школе. История Беларуси. 5-й класс. Жизнь людей на древнебелорусских землях. **16.00** Торжественное заседание и праздничный концерт, посвященные Дню белорусской милиции. В перерыве - «И будни, и праздники». Телеочерк. **18.50** Новости (с сурдопереводом). **19.05** «Крок». «Риск-версия». Телеигра. **19.40** «Это мы не проходили...» Экономическая программа. **19.55** Телевизионный Дом кино. Встреча с народным артистом СССР Юозасом Будрайтисом. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.45** Спортивный телекурьер. **22.05** Музыка без границ. «Монтсеррат Кабалье в России». Музыкальный фильм. **23.00** Фильмотека. К 100-летию со дня рождения Кондрата Крапивы. «Кто смеется последним». Худ.фильм. В перерыве (**24.00**) - Новости. **ГРОДНО**: 14.30 Сегодня — День белорусской милиции. 15.10 Неделя. Информационная программа.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.35** Новости. **8.15** «Секрет тропиканки». Сериал. **9.05** Виктор Боков .»Я кланяюсь России». **10.10** «Новоселье у Братца Кролика». Мультфильм. **10.30** «Угадай мелодию». **11.10** В эфире телерадиокомпания «Мир». «Сохрани себя». **11.50** Герои А.Дюма в приключенческой комедии «Четыре мушкетера». **13.40** «Подаренка». Мультфильм. **14.20** «Драконы подземелий». Мультсериал. **14.40** Марафон-15. **15.00** Звездный час. **15.35** «Элен и ребята». Молодежный сериал. **16.00** Джэм. **16.30** «Семь дней спорта». **17.20** «Секрет тропиканки». **18.10** Час пик. **18.35** «Угадай мелодию». **19.05** «Мы». Авторская программа В.Познера. **19.45** «Спокойной ночи, малыши!». **20.00** Время. **20.30** «Операция». **20.45** Программа передач. **20.50** Криминальный сериал «Метод Крекера». **21.45** «До и после..». Ведущий — В.Молчанов. **22.45** Линия кино. Фильм Лидии Бобровой «Ой, вы гуси».

### Канал «Россия»

**16.00, 19.00, 22.00** Вести. **16.20** Новая линия. **16.50** Клип-антракт. Юлиан, Ю.Кузнецов. **17.00** Тележурнал «О.Т.» **17.15** Спасение **911**. **18.10** L-клуб. **19.25** Подробности. **19.35** «Смерть личности». Худ.фильм (Великобритания). Часть 1-я. **20.40** Репортер. **21.05** Момент истины. **22.30** Торговый дом. **22.35** Река времени. **22.40** Автомиг. **22.45** «Спрут-6». Худ.фильм (Италия). 5-я серия.

### Санкт-Петербург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Информ ТВ. **12.10** «Первая любовь». Сериал. 1-я серия. **13.10** Скорая помощь. **13.40** Советы садоводам. **13.50, 18.55** Музыкальный момент. **14.10** Храм. **14.40** Пой с нами. **15.05** Мультфильм. **15.15** Стиль жизни. **15.40** «Немецкая волна». **16.00** Рецепт. Программа для врачей, фармацевтов и пациентов. **16.10** Страсти-мордасти. **16.25** «Нам песня жить и любить помогает». Студия «Вообрази». **16.40** «Веня. Последнее интервью». Премьера фильма. **18.10** Большой фестиваль. **18.50** Спортивные новости. **19.00** «Первая любовь». Сериал. 1-я серия. **19.50** Телеслужба безопасности. **20.00** «Похороны Сталина». Худ.фильм. **22.00** Спорт, спорт, спорт... **22.10** День рождения. **22.20** «Телекомпакт». Музыкальное шоу. **23.00** Овертайм.

### Польское телевидение
### Программа 1

**07 00** Кофе или чай? **08 45** Беседа. **09 00** «Мода на успех». Сериал пр-ва США. **09 30** Телетурнир для детей. **10 00** Новости. **10 10** Мама и я. **10 25** Гимнастика для дыхания. **10 30** Дошкольники дома. **10 55** Поговорим о детях. **11 05** «Доктор Квинн». Сериал пр-ва США. **11 50** Музыкальная программа. **12 00** Приятное с полезным. **12 30** Искусство - неискусство. **12 50** Программа о поэзии. **13 00** Новости. **13 10** Агробизнес. **13 15** Моя фирма. **13 45** Безжалостная камера. **13 55** Документальный фильм. **14 25** Сила традиций. **14 40** Власть потребляет. **15 15** Энциклопедия второй мировой войны. **15 35** Тайная история СССР. **15 50** Программа дня. **16 00** Для молодых зрителей. **16 30** «Мода на успех». Сериал пр-ва США. **17 00** Программа для молодежи. **17 25** Программа для детей. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 20** Публицистическая программа. **19 10** «Марфи Браун». Сериал пр-ва США. **19 35** Юбилейная программа. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** Телетеатр. **22 55** Пульс дня. **23 10** Неделя президента. **23 25** Миниатюры. **23 30** Тележурнал. **23 55** Полицейский журнал. **00 15** Новости. **00 30** «Пойманная». Фильм пр-ва США. **02 00** Развлекательная программа.

### Польское телевидение
### Программа 2

**08 00** Панорама. **08 10** Спортивная программа. **08 15** Утренний гость. **08 50** Академия здоровья. **09 00** Местная программа. **09 30** «Здровко». Сериал пр-ва США. **10 00** Мир женщин. **10 30** Наша большая семья. **11 00** Кроссворд. **11 25** Телетурнир. **11 50** Мультихобби. **12 20** Сообщество в культуре. **13 00** Биографии. **14 00** Панорама. **14 20** «Счастье со второй руки». Сериал пр-ва Канады. **15 10** Музыкальная программа. **15 40** Музыкальные новости. **15 55** Приветствие. **16 00** Мультсериал. **16 25** Академия здоровья. **16 35** Аппетит на здоровье. **17 00** Документальный фильм. **17 10** Подрезанные крылья. **17 30** Футбольный журнал. **18 00** Документальный сериал. **19 00** Панорама. **19 10** Местная программа. **20 05** Колесо фортуны. **20 30** Программа для детей. **21 00** «Здровко». Сериал пр-ва США. **21 30** Автожурнал. **22 00** Панорама. **22 30** Спортивная программа. **22 40** «На бездорожье счастья». Сериал пр-ва Германии. **23 30** Театральный журнал. **00 00** Тележурнал. **00 30** Конкурс песни. **01 00** Панорама. **01 05** Документальный фильм.

## Аўторак, 5 сакавіка

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00** Новости. **8.15** Авто-парк. **8.30** Бездельник. **9.00** ТВ - школе. История Беларуси. 5-й класс. Жизнь людей на древнебелорусских землях. **9.30** «Вестгейт». Телесериал (США). **10.25** Мультфильм. **10.35** «Дом с привидениями». Худ. фильм с субтитрами. **12.00** «Наша мама - герой». Док.фильм. **12.45** «Софья Ковалевская». Трехсерийный худ.фильм. 1-я серия. **15.00** Новости. **15.15** «Брызги на том берегу». Док.фильм. **15.35** Мультфильм. **15.50** ТВ - школе. Белорусская литература. 11-й класс. Янка Брыль и его творчество. **16.20** «Все про все». **16.45** Экомир-96. **17.20** Уроки Н.Новожиловой. **17.50** Музыкальный антракт. **18.00** Торжественное заседание, посвященное **100**-летию со дня рождения народного писателя Беларуси Кондрата Крапивы. В перерыве (**18.50**) - Новости (с сурдопереводом). **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Музыкальный антракт. **22.05** «Звезды» на экране. Инна Чурикова в худ.фильме «Ребро Адама». **23.25** Чемпионат Англии по футболу. Премьер-лига. «Ньюкасл Юнайтед» - «Манчестер Юнайтед». В перерыве (**24.00**) - Новости. **ГРОДНО**: 16.45 Так говорит Библия. 17.30 Дневник Принеманья. 17.45 Разговор по случаю. 21.55 По существу.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.55** Новости. **8.15** «Секрет тропиканки». **9.05** «Мы».Авторская программа В.Познера. **9.50** Смехопанорама. Ведущий — Е.Петросян. **10.15** «Далеко, далеко на юге». Мультфильм. **10.30** «Угадай мелодию». . **11.10** В эфире телерадиокомпания «Мир». «Мы и рынок». **12.00** «ТАСС уполномочен заявить..» 10-я серия. **13.10** «Т.С.Н». («Телевизионная служба новостей»). Сериал. **14.20** «Драконы подземелий». **14.40** Кварьете «Веселая квампания». **14.50** Мультитроллия. **15.10** Волшебный мир, или Синема. **15.35** «Элен и ребята». **16.00** ...До шестнадцати и старше. **16.30** «Семь дней спорта». **17.20** «Секрет тропиканки». **18.10** Час пик. **18.35** «Угадай мелодию». **19.05** «Тема». **19.45** «Спокойной ночи, малыши!». **20.00** Время. **20.30** «Операция». **20.45** Программа передач. **20.50** Всеволод Санаев в фильме Василия Шукшина «Ваш сын и брат». **22.35** «Москва — Кремль». **23.05** Хит-парад. **23.45** «Т.С.Н». («Телевизионная служба новостей»). **0.35** «Семь дней спорта». **1.05** «И снова оперетта...» Телефильм.

### Канал «Россия»

**15.05** Праздник каждый день. **15.15** Там-там новости. **15.30** Компас «Роста». «Остров Марии»(Ирландия). **15.45** Клип-антракт. Валерия. **15.50** Месяцеслов. **16.00, 19.00, 22.00** Вести. **16.20** Новая линия. **16.55** Кино в марте. **17.10** Ваше право. **17.25** Устами младенца. **17.55** Кино с продолжением. «Петербургские тайны». **19.25** Подробности. **19.35** «Первый этаж». Худ. фильм. **21.00** Двойной портрет. А.Ширвиндт и М.Державин. **21.40** Рек-тайм. **22.30** Торговый дом. **22.35** Река времени. **22.40** Автомиг. **22.45** Футбол. Кубок УЕФА. **1/4** финала. «Бавария» (Мюнхен)-»Ноттингем Форест» (Ноттингем).

### Санкт-Петербург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Информ ТВ. **12.10** «Первая любовь». Сериал. 2-я серия. **13.10** Скорая помощь. **13.40** Советы садоводам. **13.50, 16.55** Музыкальный момент. **14.10** Овертайм. **14.25** Мультфильм. **14.45** «Европейский калейдоскоп». **15.15** Стиль жизни. **15.40** «Немецкая волна». **16.00** Телешансон. **16.25** Детское ТВ. Ребятам о зверятах. **17.00** По всей России. **17.10** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.10** Большой фестиваль. **18.50** Спортивные новости. **18.55** «Первая любовь». Сериал. 2-я серия. **19.50** Телеслужба безопасности. **20.00** «Дом кино» к 70-летию Анджея Вайды представляет премьеру авторской версии фильма «Земля обетованная». **22.00** Спорт, спорт, спорт... **22.10** День рождения. **22.20** Премьера авторской версии фильма «Земля обетованная»(продолжение).

### Польское телевидение
### Программа 1

**07 00** Кофе или чай? **08 45** Беседа. **09 00** Мультсериал. **09 30** Телетурнир. **10 00** Новости. **10 10** Мама и я. **10 25** Гимнастика. **10 30** Дошкольники дома. **10 55** Поговорим о детях. **11 00** «Доченьки миллионера». Сериал пр-ва США. **11 50** Музыкальная программа. **12 00** Рынок труда. **12 20** Тележурнал. **12 30** Клуб одиноких сердец. **12 50** Сто лет. **13 00** Новости. **13 10** Агробизнес. **13 15** Тележурнал. **13 45** Телекомпьютер. **14 00** Мозг. **14 30** Счет математики. **14 50** Кухня. **15 05** Авиамодели. **15 20** Книга чудес техники. **15 30** Огненные драконы. **15 50** Программа дня. **16 00** Музыкальная программа. **16 30** «Новые приключения Черного Князя». Сериал пр-ва Австралии. **17 00** Журнал харцеров. **17 25** Программа для детей. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 20** Лицом к лицу. **18 50** Лучшие книги. **19 00** «Не от мира сего». Сериал пр-ва США. **19 25** Интернет в гостях у первой программы.. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** «Дантон». Фильм пр-ва Польши. **23 25** Пульс дня. **23 45** Сеймограф. **00 00** Новости. **00 15** Интернет в первой программе. **00 30** Документальный фильм. **01 20** Духовная культура народа. **02 20** Клуб одиноких сердец. **02 40** Киножурнал.

### Польское телевидение
### Программа 2

**08 00** Панорама. **08 10** Спортивная программа. **08 15** Утренний гость. **08 50** Академия здоровья. **09 00** Местная программа. **09 30** «Фитнесс клуб». Сериал пр-ва Польши. **10 00** Мир женщин. **10 30** Документальный сериал. **11 00** Программа для детей. **11 25** Телетурнир. **11 50** Путешествия во времени и пространстве. **12 45** Спортивная студия. **13 00** Шанс на успех. **14 00** Панорама. **14 20** «Запретная любовь». Сериал пр-ва Испании. **15 10** Музыкальный журнал. **15 40** Музыкальные новости. **15 55** Приветствие. **16 00** Сериал пр-ва Канады. **16 25** Академия здоровья. **16 35** Спортивная студия. **17 00** Документальная программа. **17 30** Телетурнир. **18 00** Тележурнал. **18 10** В тени Кремля. **18 40** Католическая программа. **19 00** Панорама. **19 10** Местная программа. **20 05** Телетурнир. **20 35** Программа для детей. **21 00** Тележурнал. **22 00** Панорама. **22 30** Спортивная программа. **22 40** Экологическая программа. **22 50** Репортеры представляют. **23 25** «Кто боится кролика». Фильм пр-ва США. **01 00** Панорама. **01 05** Художественный фильм.

## Серада, 6 сакавіка

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00** Новости. **8.15** «А дольше всего продержалась душа...» Док.фильм. **9.00** ТВ - школе. Белорусская литература. 11-й класс. Янка Брыль и его творчество. **9.30** Мультфильмы. **10.00** «Остров вдохновения». Телеспектакль. **10.30** «Да здравствует женщина!» Док.фильм. **10.50** Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады. **11.30** Видимо-невидимо. **12.30** «Софья Ковалевская». Худ.фильм. 2-я серия. **15.00** Новости. **15.15** «Павел Филонов в воспоминаниях современников». Док.фильм. **16.35** «Жаркое лето **41**-го...» **17.05** Кредо. **17.20** Гости в дом. **17.50** Музыкальный антракт. **18.00** Чем богаты... Телеочерк «Былое и думы». **18.25** Экономикст. **18.35** «Трижды один». Музыкальная передача MTV. **18.50** Новости (с сурдопереводом). **19.05** Контрасты. Правовая программа. **19.35** «Кто это?» Телеигра. **19 40** «Вестгейт». Телесериал (США). **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Музыкальный антракт. **22.10** Андрей Миронов в худ.фильме «Соломенная шляпка». 1-я серия. **23.15** Музыка без границ. **24.00** Новости. **0.15** Королевская охота. **ГРОДНО**: 17.50 Дневник Принеманья. 18.05 Разговор по случаю. 18.20 "Гараднiца". Художественная программа. 21.55 По существу.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Новости. **8.15** «Секрет тропиканки». **9.10** «Тема». **9.55** В мире животных. **10.30** «Угадай мелодию». . **11.45** «Чисто английское убийство». 1-я серия. **13.10** «Т.С.Н». («Телевизионная служба новостей»). **14.20** «Драконы подземелий». **14.40** Кактус и К. **14.50** Доми-соль. **15.10** Зов джунглей. **15.35** «Элен и ребята». **16.00** «Тет-а-тет». **16.30** «Семь дней спорта». **17.20** «Секрет тропиканки». **18.10** Час пик. **18.35** «Угадай мелодию». **19.05** «В поисках утраченного». Николай Крючков. Ведущий — Г.Скороходов. **19.45** «Спокойной ночи, малыши!». **20.00** Время. **20.30** «Операция». **20.50** Веселые истории в журнале «Ералаш». **21.20** Футбол. Лига чемпионов. 1/4 финала. «Нант»(Франция) — «Спартак»(Москва). **23.30** Футбол. Лига чемпионов. **1/4** финала. Обзор трех матчей. **0.40** «Старое танго». Фильм-балет.

### Канал «Россия»

**9.05** «Санта-Барбара». Худ.фильм. **10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **10.20** Чрезвычайный канал. «Живем и любим». **10.30** «Кучугуры и окрестности». Передача 11-я. **10.50** «Волшебный школьный автобус». Мультсериал. **11.15** Новая линия. **15.05** Праздник каждый день. **15.15** Там-там новости. **15.30** Чья сторона? **16.20** Дальний Восток. **16.50** Никто не забыт. **16.55** Вас приглашает фирма. **17.10** Кипрас Мажейка. «Параллели». **17.25** Своя игра. **17.55** Кино с продолжением. «Петербургские тайны». **19.25** Подробности. **19.35** «Санта-Барбара». Худ.фильм. **20.30** «Домино» Михаила Боярского. **21.10** Чрезвычайный канал. **22.30** Река времени. **22.35** Автомиг. **22.40** Экран криминальных сообщений. **22.50** «Спрут-6». Худ. фильм (Италия). 6-я серия. **23.30** Аниматека.

### Санкт-Петербург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Информ ТВ. **12.10** «Первая любовь». Сериал. 3-я серия. **13.10** Скорая помощь. **13.40** Советы садоводам. **13.50, 18.55, 21.00** Музыкальный момент. **14.10** «Дом кино». Джина Лоллобриджида, Лев Додин, Виктор Розов, Тонино Гуэрра и другие. **14.50** Мультфильм. **15.15** Стиль жизни. **15.40** «Немецкая волна». **16.00** Театральная провинция? **16.30** «Синяя птица «Гжель». Видеофильм. **16.45** Детское ТВ. Там, где живет Паутиныч. **17.10** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.10** Большой фестиваль. **18.50** Спортивные новости. **19.00** «Первая любовь». Сериал. 3-я серия. **19.50** Телеслужба безопасности. **20.00** Спецвыпуск телевизионной службы безопасности (ТСБ). **20.45** Дела городские. **21.05** Блеф-клуб. **22.00** Спорт, спорт, спорт... **22.10** День рождения.

### Польское телевидение
### Программа 1

**07 00** Кофе или чай? **08 45** Беседа. **09 00** «Мода на успех». Сериал пр-ва США. **09 30** Программа для детей. **10 00** Новости. **10 10** Мама и я. **10 25** Гимнастика. **10 30** Дошкольники дома. **10 55** Поговорим о детях. **11 00** «Танцы на льду». Сериал пр-ва Германии. **11 45** Музыкальная программа. **12 00** Тележурнал. **12 15** Академия здоровья. **12 30** Жизнь моя. **13 00** Новости. **13,10** Агробизнес. **13 15** Экономика для земледельца. **13 40** Тележурнал. **13 55** История с мышкой и компьютером. **14 25** Фабриканты. **14 50** Выскажись. **14 55** Встречи с литературой. **15 20** Документальный фильм. **15 50** Программа на вечер. **16 00** Музыкально-поэтическая программа. **16 30** «Мода на успех». Сериал пр-ва США. **17 00** Программа для молодежи. **17 25** Программа для детей. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 20** Телетурнир. **18 45** С камерой среди зверей. **19 00** «Успех». Сериал Польши. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** Спортивная студия. **23 25** Пульс дня. **23 40** Всегда вечером. **00 20** Новости. **00 35** «Дело Антония Мартелло». Фильм пр-ва Италии. **02 00** Культурно-публицистическая программа.

### Польское телевидение
### Программа 2

**08 00** Панорама. **08 10** Спортивная программа. **08 15** Утренний гость. **08 50** Академия здоровья. **09 00** Местная программа. **09 30** «Счастливые дни». Сериал пр-ва США. **10 00** Мир женщин. **10 30** Сокровища азиатской культуры. **11 00** Программа для детей. **11 25** Документальные фильмы. **13 40** Мой маленький мир. **14 00** Панорама. **14 20** «Лето в Лесмоне». сериал пр-ва Германии. **15 10** Музыкальный журнал. **15 40** Музыкальные новости. **15 55** Приветствие. **16 00** Мультсериал. **16 25** Академия здоровья. **16 35** Пейзаж польской деревни. **17 00** Животные вокруг нас. **17 30** Телетурнир. **18 00** Киносеанс. **18 30** Что дальше. **18 55** Розыгрыш лото. **19 00** Панорама. **19 10** Местная программа. **20 05** Один из десяти. **20 35** Программа для детей. **21 00** «Горячий Четверг». Фильм пр-ва Польши. **22 00** Панорама. **22 35** Экспресс репортеров. **23 05** Театральная студия. **00 25** Спортивная студия. **01 25** Панорама. **01 30** Запасные части.

## Чацьвер, 7 сакавіка

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00** Новости. **8.15** Мультфильм. **8.35** «За зеркалом». Док.фильм. **8.55** «Вестгейт». Телесериал (США). **9.50** Мультфильм. **10.00** «Мария, Мирабелла в Транзистории». Худ.фильм. **11.10** Четвертое измерение. **11.55** Театр песни Ядвиги Поплавской и Александра Тихановича. **12.55** «Софья Ковалевская». Худ.фильм. 3-я серия. **15.00** Новости. **15.15** «Не забудьте выключить телевизор». Худ.фильм. **16.30** Приглашаем на вечорки. **17.05** Игра в куклы. **17.20** Арсенал. «Марсово поле». **17.50** Музыкальный антракт. **18.00** Чернобыль: проблемы и решения. **18.25** Экономикст. **18.35** «Трижды один». Музыкальная передача MTV. **18.50** Новости (с сурдопереводом). **19.05** Международный курьер. События, факты, комментарии. **19.40** «Вестгейт». Телесериал (США). **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Музыкальный антракт. **22.10** «Соломенная шляпка». Худ.фильм. 2-я серия. **23.20** «Крок». Программа для молодежи. **23.50** Супергол. **0.05** Новости. **0.20** Баскетбол. Чемпионат Европы. Израиль - Беларусь. **ГРОДНО**: 17.50 Телекабинет власти. 18.10 Дневник Принеманья. 18.20 Вечерний канал. Информационно-музыкальная программа.

### ОРТ

**5.00** Телеутро. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15** Новости. **8.15** «Секрет тропиканки». **9.05** Футбол. Лига чемпионов. **1/4** финала. «Боруссия»(Германия) — «Аякс»(Голландия). **11.10** В эфире телерадиокомпания «Мир». «Под крышей мира». **11.45** «Чисто английское убийство». 2-я серия. **13.10** «Т. С. Н». («Телевизионная служба новостей»). Сериал. **14.20** «Драконы подземелий». **14.40** Лего-го!. **15.10** Тин-Тоник. **15.35** «Элен и ребята». **16.00** Рок-урок. **16.30** «Семь дней спорта». **17.20** «Секрет тропиканки». **18.10** Час пик. **18.35** Лотто-Миллион. **19.05** «Один на один». **19.45** «Спокойной ночи, малыши!». **20.00** Время. **20.30** «Операция». **20.45** Программа передач. **20.50** Людмила Гурченко и Наталья Гундарева в комедии «Уходя — уходи». **22.25** Музыкальное шоу Ивана Демидова. **23.25** Кинокомедия «Страховой агент». **0.30** «Продавец птиц». Музыкальный телефильм. **1.30** «Семь дней спорта».

### Канал «Россия»

**9.05** Мульти-пульти. **9.30** «Петербургский романс. Валерий Агафонов». Док. фильм. **10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **10.20** Милицейская хроника. **10.30** «Кучугуры и окрестности». Передача 12-я. **10.50** Музыкальный экспромт. **11.15** Новая линия. **15.05** Праздник каждый день. **15.15** Там-там новости. **15.30** Кенгуру. **16.20** Новая линия. **16.50** Клип-антракт. Сестры Зайцевы, А.Губин. **17.00** Ваш партнер. **17.15** «Мадам, Вы прекрасны». Юбилейный вечер Марии Мироновой. **17.55** Кино с продолжением. «Петербургские тайны». **19.25** Подробности. **19.35** Футбол. Кубок кубков. **1/4** финала. «Динамо» (Москва) - «Рапид» (Вена). **21.25** Сам себе режиссер. **22.30** Река времени. **22.35** Автомиг. **22.40** «Екатерина Максимова». Премьера док. фильма. **24.00** Экран криминальных сообщений.

### Санкт-Петербург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Информ ТВ. **12.10** «Первая любовь». Сериал. 4-я серия. **13.10** Скорая помощь. **13.40** Советы садоводам. **13.50** Музыкальный момент. **14.10** Памяти Галины Ковалевой. «Пою мои мечты». Телефильм. **15.15** Стиль жизни. **15.40** «Немецкая волна». **16.00** Европейский телесоюз представляет: «Под небом Берлина». Телефильм (Германия). **16.30** «Похулиганим». Передача для детей. **17.00** По всей России. **17.10** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.10** Большой фестиваль. **18.50** Спортивные новости. **18.55** «Первая любовь». Сериал. 4-я серия. **19.45** Телеслужба безопасности. **19.55** Петербургский ангажемент. **20.55** «Золотой Телец». Развлекательная программа. **22.00** Спорт, спорт, спорт... **22.10** День рождения. **22.20** Исповедь Ирины Аллегровой.

### Польское телевидение
### Программа 1

**07 00** Кофе или чай? **08 45** Беседа. **09 00** Мультсериал. **09 30** Программа для детей. **10 00** Новости. **10 10** Мама и я. **10 20** Гимнастика. **10 30** Дошкольники дома. **10 55** Поговорим о детях. **11 05** «Юристы из города Ангелов». Сериал пр-ва США. **11 50** Музыкальная программа. **12 00** Кулинарная программа. **12 20** Это легко. **12 30** Четверть часа на экране. **12 45** Жить успешней. **13 00** Новости. **13 10** Агробизнес. **13 15** Встречи с природой. **13 40** Река в стороне Европы. **14 15** Балтийские повести. **14 35** Тележурнал. **15 00** Животные мира. **15 30** Через моря и суши. **15 50** Программа на вечер. **16 00** Музыкальная программа. **16 30** «Макс Глик». Сериал пр-ва Канады. **17 00** Программа для молодежи. **17 25** Программа для детей. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 20** Киножурнал. **18 40** Здоровья. **19 10** «Папа майор». Сериал пр-ва США. **19 30** Католический журнал. **19 45** Спортивная программа. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** «Неприкасаемые». Сериал пр-ва США. **22 00** Публицистическая программа. **23 20** Правительственный журнал. **23 30** Пегас. **00 00** Хозяйственные новости. **00 20** Документальный фильм. **01 10** «Два шага в тишине». Фильм пр-ва России. **02 15** развлекательная программа.

### Польское телевидение
### Программа 2

**08 00** Панорама. **08 10** Спортивная программа. **08 15** Утренний гость. **08 50** Академия здоровья. **09 00** Местная программа. **09 30** «Дети, заботы и мы». Сериал пр-ва США. **10 00** Мир женщин. **10 30** Мир, который не может погибнуть. **10 55** Мультсериал. **11 00** Клуб пана Рыся. **11 25** Семь чудес из моего класса. **12 05** Концерт виолончели. **13 00** Документальный фильм. **14 00** Панорама. **14 20** Похороны Сталина. **16 00** Приветствие. **16 05** Под небом Африки. **16 25** Академия здоровья. **16 35** Спортивная студия. **17 05** Программа о животных. **17 35** Телетурнир. **18 00** Один на один. **18 25** Документальный фильм. **19 00** Панорама. **19 10** Местная программа. **20 05** Один из десяти. **20 35** Клуб пана Рыся. **21 00** Вопросы о Польше. **22 00** Панорама. **22 30** Спортивная программа. **22 35** Развлекательная программа. **22 45** Художественный фильм. **00 35** Тележурнал. **00 50** Конкурс песни. **01 20** Панорама. **01 25** Арт-ночь.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

